# БАЦЬКАЎШЧЫНА

WHITERUTHENIAN WEEKLY „THE FATHERLAND“

Цана 30 н. фэн.

№ 35 (38) 7 ЛІСТАПАДА 1948 Г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 2

## ТРУМАН ІЗНОЎ ПРЭЗЫДЭНТАМ

2 лістапада адбыліся ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі выбары прэзыдэнта й віцэ-прэзыдэнта. Фармальна ў гэты дзень выбіраюць электараў, якія ў палавіне сьнежаня выбяруць канчальна прэзыдэнта й віцэ-прэзыдэнта, але ўож 3 лістопада, паводля складу выбраных электараў, можна судзіць, хто будзе прэзыдэнтам.

На становішча прэзыдэнта кандыдуюць: ад дэмакратычнай партыі — Труман, ад рэспубліканскай партыі— Дуі, ад партыі абароны правоў паасобных штатаў — Турмонд і ад партыі прагрэсыўнай (камуністых) — Уолес.

Падчас заканчэньня друкаваньня газэты былі ведамыя вынікі галасаваньня ў роўніцы 76%, з чаго вынікала, што: кандыдат дэмакратычнай партыі прэзыдэнт Труман атрымаў роўна 18 з палавінаю мільёнаў галасоў, а кандыдат рэспубліканскай партыі Дуі 17 з чэцьверцю мільёнаў галасоў. Паводля гэтага Труман здабыў дагэтуть 224 электараў, а Дуі — 214. Канчальны вынік выбараў будзе залежыць ад штатаў Ілінуа і Огайё, зь якіх няма яшчэ ніякіх дадзеных. Апрача гэтага дэмакратычная партыя здабывае цяпер бальшыню ў сэнаце і ў палаце рэпрэзэнтантаў амэрыканскага кангрэсу. Бальшыня палаты рэпрэзэнтантаў будзе мець рашаючае значэньне пры выбарах прэзыдэнта ў выпадку, калі ніводзін з кандыдатаў ня будзе мець за сабой абсалютнай бальшыні электараў. У такім выпадку выбірае прэзыдэнта новая палата рэпрэзэнтантаў, якая ў студзені 1949 г. зьбярэцца на сваё першае паседжаньне.

Кандыдат прагрэсыўнай (камуністычнай) партыі Уолес здабыў дасюль каля 900.000 галасоў. Кандыдат партыі абароны правоў паасобных штатаў Турмонд мае аз сабой 38 электараў.

2 лістапада адбываліся таксама выбары ў сэнат і ў палату рэпрэзэнтантаў амэрыканскага кангрэсу. У вабодвых палатах дэмакратычная партыя забясьпечыла сабе бальшыню.

**Як даведваемся ў вапошнюю хвіліну, на прэзыдэнта ЗША зьяўляецца аканчальна выбраны Труман.**




**Кастрычніцкі парад**

## Крытычнае Палажэньне у Кітаі

З таго мамэнту, калі камуністычная кітайская армія 24 верасьня заняла Тсінан — галоўны горад правінцыі Шантунг, пачаліся паважныя няўдачы ўрадавых нацыянальных войскаў. Апошнім мамэнтам гэтых няўдачаў зьяўляецца заняцьце камуністымі 31 кастрычніка Мукдэну — галоўнага гораду Манджурыі. Урадавым войскам не ўдалося пранікнуць на паўдзённы захад у правінцыю Еголь і яны зьяўляюцца ў акружэньні. Іхныя страты паводля яшчэ не пацьвержданых вестак аблічаюцца на 200.000 чалавек. **У выніку заняцьця Мукдэну практычна апанавалі ўжо камуністыя ўсю Манджурыю. Як паведамляецца, генэралісімус Чан-Кай-Шэк канцэнтруе свае сілы ў паўночным Кітаі для вырашальнага бою з камуністымі.**

**Чан-Кай-Шэк між іншым заявіў, што камуністычнае панаваньне ў Манджурыі зьяўляецца пачаткам** новае сусьветнае катастрофы. Ён адразу пасьля ўпадку Мукдэну склікаў у Нанкіне ваенную раду на надзвычайнае паседжаньне, на якім узялі ўдзел сябры нацыянальнага кітайскага ўраду й многія генэралы. Чан-Кай-Шэк нарысаваў палажэньне ў вельмі цёмных хварбах і заявіў, што Кітай стаіць перад найвастрэйшым крызысам ад часу заканчэньня сусьветнае вайны. Кітайская дамашняя вайна — паводля яго — вырашыцца найпазьней у працягу трох наступных месяцаў. Цераз упадак Мукдэну зьяўляецца страчанай уся Манджурыя і загрожаны паўночны Кітай. Калі ж і паўночны Кітай не утрымаецца, то ня можа быць мовы й аб незалежнасьці Карэі. Китайскі прэзыдэнт зьвярнуўся да ЗША з заклікам прыйсьці з помаччу Азіі, каб гэтым усьцерагчыся трэйцяй сусьветнай вайны.

Камуністыя трымаюцца прынцыпу, што іхная кантроля над Азіяй зьяўляецца важнай перадумовай да апанаваньня камуністымі цэлага сьвету. А каб мець гэтую кантролю над Азіяй, неабходна спачатку апанаваць увесь Кітай.

Прадстаўнік амэрыканскага ўраду заявіў 31 кастрычніка, што на працягу двух тыдняў Амэрыка вышле нацыянальнаму Кітаю пэўную частку ўзбраеньня. Амэрыканская прэса 1 лістапада шырака камэнтуе ўпадак Мукдэну. «Нью-Ёрк Таймс» сьцьвярджае, што Кітай дзякуючы гэтаму зьяўляецца пазбаўленым вялікага індустрыяльнага цэнтру. які быў прадбачаны, як гаспадарская база для адбудовы ўсяе краіны. «Нью-Ёрк Гэральд Трыбюн» заяўляе, што Кітай можа быць уратаваны толькі пры выдатнай помачы ЗША.

### ФРНЦУСКІ ЎРАД АПАНОЎВАЕ СЫТУАЦЫЮ

Падчас таго, калі аддзелы арміі імкнуліmя заняць капальні ў Лівін, у першы раз ад пачатку штрайку, дайшло да вельмі сурьёзных выступленьняў. Штрайкуючыя работнікі пачалі abліваць жаўнераў бэнзінай і старaліся яе запаліць пры помачы факелаў з агнём і ручных гранатаў.

Як паведамляе француcкае міністэрства нутраных справаў. зьўляюцца ўжо амаль 112 капальняў у паўночай Францыі абсаджанымі войскам і такім чынам прадпрынятая ўрадам акцыя ўжо закончылася. Падчас гэтае акцыі былі ўжываныя танкі й панцырныя аўтамабілі.

За выключэньнем дробных актаў сабатажу, у вугляkопных правінцыях пануе спакой. Тэндэнцыя да ўзнаўленьня працы ў капальнях павялічваецца з дня на дзень. У Лятарынгіі ўсе шахты пачалі ўжо поўнасьцю працаваць. Лік ахвотных да працы ўсьцяж узрастае ў паўночнай і сярэдняй Францыі.

### ПАВЕТРАНЫ КАЛІДОР ЗАГРОЖАНЫ

Пасьля таго, калі прадстаўнік Саветаў Вышынскі належыў сваё вэта на рэзалюцыю Рады Бясьпечнасьці ў справе Бэрліна, савецкія ўлады пачалі рабіць далейшыя перашкоды для пералёту транспартных самалётаў з заходніх зонаў у Бэрлін. Гэтак 26 кастрычніка савецкія акупацыйныя ўлады заявілі, што яны аб'яўляюць нядзейнай умову чатырох гаспадарстваў у справе г. зв. паветранага калідору ў Бэрлін. Гэная ўмова — на думку Саветаў — няважная таму, што Кантрольная Рада яе не ратыфікавала. Гэткую заяву зрабіў савецкі кантрольны афіцэр Зорчанка. Ён заявіў, што будучая віна за нешчасьлівыя выпадкі будзе ляжаць выключна на амэрыканцах і ангельцах, калі яны сваячасова ня будуць падаваць да ведама савецкім уладам аб сваіх пералётах цераз калідор.

На другі дзень пасьля гэтай заявы Зорчанкі савецкае кіраўніцтва паведаміла Бэрлінскую цэнтралю бясьпечнасьці паветраных лётаў, што ў паветраным калідоры пачнуцца практыкаваньні страляньня й скіданьня бомбаў. Таго самага дня па паўдні савецкі генэрал Лук'яненка злажыў амэрыканскаму й ангельскаму камандаваньню ў Бэрліне востры пратэст супраць што раз часьцейшых «нарушэньняў паветраных правілаў бясьпечнасьці брытанскімі й амэрыканскімі самелётамі», вымагаючы безадкладнага прыпыненьня гэтых зьявішчаў.

### ВЫШЫНСКІ СТРАЛЯЕ СЛАВАМІ

Падчас паседжаньня палітычнай камісіі ЗН 2 лістапада заходнія гаспадарствы былі моцна заатакованыя прадстаўнікамі ўсходняга блёку. Чэхаславацкі дэлегат заявіў, што Балканская камісія дзеіла на падставе партыйнай інструкцыі. Таксама польскі дэлегат востра крытыкаваў праект рэзалюцыі чатырох заходніх гаспадарстваў у справе грэцкіх выпадкаў. Савецкі дэлегат Вышынскі назваў абвінавачаньні паўночных суседзяў Грэцыі лёгкадумнымі. Ён сказаў, што ня выключана, што партызаны былі пранікнулі на баўгарскую або альбанскую тэрыторыю, але з гэтага нельга рабіць вываду, што гэта дзеілася ў паразуменьні з урадамі гэтых краёў. Баўгарскі прадстаўнік заявіў, што ягоны ўрад згаджаецца на перамовы з Грэцыяй у справе гранічных пытаньняў. Падчас нарадаў заатакаваў Вышынскі асабіста прадстаўніка Філіпінаў. У сувязі з гэтым паўстала войстрая вымена словаў паміж дэлегатам Бэльгіі Спакам і Вышынскім. Вышінскі зажадаў ад Спака лічыцца із славамі.

### ПАМЁР КАРДЫНАЛ ГЛЁНД

22 кастрычніка ў вадным із Варшаўскіх шпіталяў памёр прымас Польшчы кардынал Глёнд. Сумная вестка аб сьмерці кардынала зьяўляецца вялікай стратай для ўсяго польскага народу, асабліва ў сяньняшнія часы няволі, бо памерлы быў адным з найбольшых рэпрэзэнтантаў ня толькі рэлігійных, але й нацыянальных польскіх ідэалаў.

### АРМІЯ ІЗРАЭЛЮ НА ТЭРЫТОРЫІ ЛІБАНОНУ

Паводля апошніх певедамленьняў, вайсковыя аддзелы ізраэльскага ўраду праніклі на 5 кілёмэтраў на тэрыторыю Лібанону й апанавалі цэлы рад вёсак. Яны адмовіліся падпарадкавацца вымаганьням прадстаўнікоў ЗН вярнуцца на свае ранейшыя пазыцыі. Брытанскі дэлегат ЗН назваў палестынскае пытаньне ў сувязі з гэтым выпадкам сур'ёзным і дамагаўся безадкладнай інтэрвэнцыі Рады Бясьпечнасьці. Рада Бясьпечнасьці мае сабрацца ў гэтай справе 4 лістапада.

### ПЕРАМОГА ВАЙСКОВАЙ РЭВАЛЮЦЫІ Ў ПЭРУ

У выніку вайсковай рэвалюцыі ў паўдзённым Пэру, зрокся свайго становішча дасюлешні пэруанскі прэзыдэнт Бустамэнтэ й выехаў на выгнаньне ў Аргентыну. Становішча прэзыдэнта пераняў 31 кастрычніка правадыр паўстанцаў генэрал Одрыя. Новы пэруанскі кабінэт складаецца выключна з вайсковых.

## 31 ГОД
## СУСЬВЕТНАГА ЗЛАЧЫНСТВА

Сяньня 7 лістопада ў цэлым СССР адбываюцца з удзелам мільённых масаў прымусова сагнаных няволь-нікаў вялікія мітынгі й парады дзеля заманіфэставаньня вялікіх дасягненьняў у краіне «перамогшага сацыялізму», «радаснага, шчасьлівага й заможнага» жыцьця працоўных «пад сонцам Сталінскай констытуцыі, вялікае «Сталінскае дружбы народаў», сусьветнае салідарнасьці ўсіх «працоўных» ды й яшчэ нескончонага ліку розных «дабрадзействаў», якімі абдарыў Сталін жыхароў аднэй шостай часткі сьвету. Афіцыйна гэта носіць назоў — «урачыстага сьвяткаваньня 31-ай гадавіны вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі».

Аднак ужо даўно ведама, што гэта ня была ніякая рэвалюцыя, але самая рэакцыйная й праступная контррэвалюцыя. Яна была ня чым іншым, як удалай спробай бальшавіцкае клікі захапленьня ў Расеі ўлады ў свае рукі, каб пры яе помачы ў імя спрадвечнага расейскага імпэрыялізму здушыць нацыянальна-вызвольныя рэвалюцыі паняволеных Масквою народаў і іхныя маладыя гаспадарствы, што паўсталі на руінах царскае Расеі, ды праводзіць над гэтымі народамі свае бяздушныя й бязьлітасныя экспэрымэнты.

Г. зв. «кастрычніцкая рэвалюцыя» замацавала ў Расеі непадзельную ўладу бальшавікоў. Ад гэтага часу пачынаюцца ўсе нязьлічоныя балцавіцкія злачынствы ня толькі на тэрыторыі, апанаванай бальшавікамі, але і ў цэлым сьвеце.

Першым сваім астрыёем скіраваўся бальшавізм супраць усіх тых волялюбных народаў, што раней або пазьней былі падбітыя царскай Расеяй, а цяпер, у выніку нацыянальных рэвалюцыяў, паўсталі да вольнага й незалежнага жыцьця. Бо хаця камунізм заяўляў, як і заяўляе цяпер, што ён базуецца на інтэрнацыяналізьме й антынацыяналізьме, аднак адразу-ж пераняў ён у спадчыне імпэрыялізм царскае Расеі й зьвярыны шавінізм расейскае «чорнае сотні». Дзеля гэтага перавагаю фізычнае сілы безаглядна зьнішчыў ён маладыя незалежныя рэспублікі Беларусі, Украіны, Закаўказьзя, Паўночнага Каўказу, Туркестану, Казакіі ды крывава здушыў нацыянальна-вызвольныя рухі іншых нерасейскіх народаў, адбудоўваючы такім чынам пад новым шыльдам старую расейскую імпэрыю.

Будучы аднак змушанымі лічыцца з нацыянальнай сілай падбітых народаў ды йдучы за патрэбамі прапаганды навонкі, Саветы на нерасейскіх тэрыторыях або толькі на іхных частках творацъ г. зв. «саюзныя рэспублікі», якім у іхных канстытуцыях загарантоўваюць усе нацыянальныя й палітычныя правы з правам выхаду з Савецкага Саюзу ўключна. Такім спосабам паўстала й г. зв. «Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка». Аднак БССР, як ведама, не зьяўляецца й ценем беларускае дзяржаўнасьці, а толькі найбольш пэрфідным сродкам паняволеньня беларускага народу й ягонага фізычнага вынішчэньня.

Ад гэтага часу пачынаюцца найвялікшыя мукі беларускага народу на ягоным гістарычным шляху, які, як і іншыя паняволеныя народы, стаўся аб'ектам найбольш жорстокіх і бяздушных экспэрымэнтаў маскоўскага камунізму. Усе дасюлешнія дасягненьні беларускага нацыянальнага жыцьця паступова, але пасьлядоўна нішчацца з мэтаю пазбаўленьня народу ягонае нацыянальнае душы й з мэтаю ягонае поўнае русыфікацыі. Заводзіцца жорсткі маральны тэрор і нішчэньне ў народзе ўсіх вартасьцяў вольнага чалавека з мэтаю

# ВАДА НА МЛЫН ВОРАГА

Сярод расейскіх эміграцыйных колаў у паглядах на справу зьнішчэньня бальшавізму й будучага ўпарадкаваньня сяньняшняе падбальшавіцкае тэрыторыі на першы плян выступаюць дзьве наступныя праблемы: 1. пасьлябальшавіцкая Расея павінна й надалей астацца непадзельнай ня гледзячы на тое, што ў бальшыні засяляюць яе нерасейскія народы, якія былі калісьці свабоднымі, а ў часы няволі выказалі дастатковыя імкненьні да свае гаспадарстваўскае незалежнасьці. Гэты палітычны анахранізм расейскае эміграцыі, падыктаваны імпэрыялістычнымі расейскімі імкненьнямі, на столькі сільны, што няма сяньня ніводнай расейскай групы, якая згаджалася-б на вольнасьць і гаспадарстваўскую незалежнасьць хоць аднаго народу, падбітага царскай Расеяй або Савецкім Саюзам. 2. Многія расейскія палітычныя колы пашыраюць думку й стараюцца пераканаць аб ей заходні дэмакратычны сьвет, што каб паваліць бальшавізм, ня трэба ніякае вонкавае інтэрвэнцыі, бо гэтае вялікае заданьне можа выканаць сам расейскі народ шляхам нацыянальнай рэвалюцыі ў СССР.

Гэтыя два мамэнты на першы пагляд выглядаюць незележнымі адзін ад другога. Але калі добра іх прааналізаваць, то пераканаемся, што зьяўляюцца яны неразлучна між сабою зьвязанымі й выкліканымі аднэй і тэй самай ідэяй: расейскага імпэрыялізму й паняволеньня нерасейскіх народаў.

Апошнім найбольш вымоўным фактам такога палітычнага абскурантызму можа служыць выступленьне ў ЗША расейскага палітычнага дзеяча К. Болдырава, які называе сябе кіраўніком ведамае расейскае палітычнае партыі—НТС (Национальный Трудовой Союз). Гэты Болдыраў на аднэй прэсавай канфэрэнцыі ў Нью-Ёрку нядаўна заявіў, што сярод расейскага народу ўжо ад 18 год існуе моцны рэвалюцыйны супрацьсталінскі рух, кіраваны НТС, дзякуючы якому было зьнішчана дагэтуль аж 200 выдатных камуністых. Ён цьвердзіць, што задзіночаньне ўсіх супрацьбальшавіцкіх арганізацыяў у Расеі магло-б на працягу некалькіх месяцаў стварыць такую рэвалюцыйную сытуацыю, што зрабіла-б немагчымай усякую агрэсыўную вайну. У сваім артыкуле, зьмешчаным у амэрыканскай газэце «Люк», Болдыраў піша даслоўна: «Амэрыканцы, сумляваючыся, падыймаюць бровы, калі я гавару аб рэвалюцыі ў Расеі. Яны ўважаюць, што СССР заціснуты ў кулак тайнай паліцыяй і, паміма таго, яшчэ вялізарнай савецкай арміяй. Зразумела, народнае паўстаньне супраць савецкай арміі, вернай Крамлю, было-б не мэтазгодным. Але рад выпадкаў з апошняе вайны, амаль няведамых у ЗША, давёў, што савецкая армія — на баку народаў». І свой доўгі артыкул, у якім ён стараецца пералічыць усе рэвалюцыйныя акты расейскага народу, уключаючы сюды й забойства Кірава (які, як потым высьнена, быў забіты з даручэньня ГПУ), ён канчае славамі: «Калі ня суджана прыйсьці к спакойнаму жыцьцю на зямлі, то яно прыйдзе дзякуючы вялікай рэвалюцыі. Я надзеюся й малюся: калі амэрыканскі ўрад ня можа памагчы, то каб ён, у крайнім выпадку, не перашкаджаў імкненьням тых, што гатовыя аддаць сваё жыцьцё за лепшы сьвет».

Як высказваньні Болдырава на ўспомненай прэсавай канфэрэнцыі, так і аснаўная думка ягонага артыкулу, ня толькі фальшывыя, але й шкодныя, і то шкодныя ня толькі для народаў, паняволеных бальшавізмам, але ў роўнай меры й для інтарэсаў заходняга дэмакратычнага сьвету. А таму, што гэткі пагляд зьяўляецца аднačасна паглядам бадай што бальшыні расейскіх эміграцыйных палітыкаў, дык мусім над гэтым пытаньнем шырэй тут затрымацца.

## НЕ ПРЫСАБЕЧВАЙЦЕ НАШЫХ ЗАСЛУГАЎ

Калі Болдыраў заяўляе, што рэвалюцыйны супрацьбальшавіцкі працэс, што адбываўся дагэтуль ў СССР і адбываецца цяпер, зьяўляецца заслугай толькі расейскага народу, а пры гэтым ня робіць і ўспаміну навет аб народах нерасейскіх, дык робіць гэта груба тэндэнцыйна. Гэтым ён імкнецца паказаць перад сьветам, што толькі расейскі народ вядзе рэвалюцыйнае супрацьбальшавіцкае змаганьне, а ўсе іншыя народы або такога змаганьня зусім не вядуць, або—што больш зьяўляецца пэўным — належаць яны непадзельна да «вялікага» расейскага народу. Як-бы аўтар не ўважаў, то канчальны сэнс такога цьверджаньня адзіны: або ў Саветах нерасейскіх народаў зусім няма, або яны так збальшавізаваныя, што зусім не змагаюцца з бальшавізмам, а таму ў перабудове будучай Расеі не павінны быць браныя пад увагу.

Прыгледзімся, як-жа справа прадстаўляецца ў запраўднасьці? Мы ня хочам тут цьвердзіць, што расейскі народ зьяўляецца задаволены із сталінскай сыстэмы й ня хоча зьнішчэньня бальшавізму. Але таксама трэба адкрыта прызнацца, што бальшавізм у вялікай, а мо і ў пераважаючай меры паўстаў на расейскай нацыянальнай базе й на расейскай вялікадзяржаўніцкай традыцыі, ды зарадзіўся й паўстаў ён якраз толькі сярод расейскага народу. Калі пасьля кастрычніцкае рэвалюцыі вяліся ў многіх мясцовасьцях Расеі змаганьні супраць бальшавізму, дык былі гэта змаганьні вышэйшага афіцэрства, арыстакратыі ды бюрократычных колаў якія адкрыта былі бальшавікамі засуджаны на зьнішчэньне. Але гэтае змаганьне бадай што не пацягнула за сабою расейскіх масаў. Расейскае работніцтва і ў бальшыні сваей сялянства падтрымалі бальшавізм, а ў найлепшым выпадку захавалі нэўтральнасьць, пасыўна прыглядаючыся да падзеяў, і таму так хутка на этнаграфічна расейскай тэрыторыі бальшавізм перамог.

Затое зусім іначай прадстаўлялася справа сярод нерасейскіх народаў, што былі паняволены царскай Расеяй. Ані беларусы ані балтыйцы ані ўкраінцы, ані казакі, ані народы каўкаскія й туркестанцы ня толькі не падтрымалі бальшавіцкага руху, але наважана й станоўка выступілі супраць яго, бо разумелі, што гэты рух, хоць і пашыраў інтэрнацыянальную дактрыну, у корані сваім быў рухам расейскім і, як такі, супярэчным нацыянальным імкненьням гэтых народаў. Гэтыя народы зь вялікімі высілкамі адбудавалі тады свае нацыянальныя дэмакратычныя гаспадарствы й з аружжам у руках ахвярна іх баранілі перад бальшавіцкім наступам.

Калі-ж аднак у выніку створаных абставінаў і незразуменьню заходняга сьвету, які не хацеў падтрымаць вольных і дэмакратычных гаспадарстваў, паўсталых на разваліна́х царскае Расеі, сталіся яны трагічнаю ахвяраю бальшавіцкае інвазіі, то ўсе гэтыя воляпюбныя народы павялі супраць бальшавізму бескампраміснае змаганьне на ўсіх фронтах. Гэтае змаганьне ня спынілася аж да апошняе сусьветнае вайны, й вялося яно на фронце нацыянальна-культурным, палітычным, сацыяльна-гаспадарскім, а навет нярэдкія былі й збройныя масавыя паўстаньні. Вынікам усяго гэтага былі цэлыя дзесяткі мільёнаў фізычна зьнішчаных бальшавікамі людзей. А ў гэтым-жа самым часе на расейскай этнаграфічнай тэрыторыі ніякіх масавых выступленьняў супраць бальшавізму, за выключэньнем розных лякальных інцыдэнтаў, не адбылося. Дык не расейскаму народу трэба прыпісаць заслугі ў вызвольна-рэвалюцыйным змаганьні супраць бальшавізму, але выключна нерасейскім народам.

Доказам гэтага й апошняя сусьветная вайна. Падчас яе й расейскі народ жадаў гібелі бальшавізму, але калі Сталін адклікнуўся да расейскага патрыятызму, то расейскі народ яго поўнасьцю падтрымаў і гэтым самым выратаваў бальшавізм. Затое нерасейскія народы ўвесь час былі супраць бальшавізму. Калі пабачылі, што Гітлер нясе ім новую няволю, то ўсёроўна не пайшлі за Сталінам, але павялі вялікае нацыянальнае змаганьне на два фронты: супраць Сталіна й супраць Гітлера. Аб тым, што Масква была моцна незадаволеная з палітычнага становішча нерасейскіх народаў у гэтай вайне, пацьвердзіў сам «бацька» Сталін у сваей прамове да камандзіраў савецкай арміі, якую ён меў 24 мая 1945 г. Ён сказаў, што ў цяжкой вайне, якую СССР вёў зь немцамі, адзіным народам спасярод 50-ці народаў Савецкага Саюзу, які апраўдаў давер савецкага ўраду, быў народ расейскі. Гэтыя словы Сталіна выразна скіраваныя супраць беларускага й украінскага народаў, але тое, што «годнымі даверу» не названыя народы Каўказу й Туркестану, паказвае, што адносіны да савецкага рэжыму й тых народаў ня былі для Масквы здавальняючымі.

## ШЛЯХ ДА ПЕРАМОГІ ІНШЫ

Фарсаваньне расейскімі эміграцыйнымі коламі пагляду, што бальшавізм можа быць зьнішчаны рэвалюцыйнымі сіламі расейскага народу навет бяз вонкавай мілітарнай інтэрвэнцыі зьяўляецца, як сказана вышэй, шкодным зьявішчам ня толькі для народаў, паняволеных бальшавізмам — якія зьўляюцца запраўднымі піянерамі супрацьбальшавіцкай рэвалюцыі — але й для заохдня-дэмакратычнага сьвету. Нікому не сакрэт, што дзякуючы спэцыяльнай сыстэме савецкага й масавага безагляднага тэрору абсалютна няма ніякай магчымасьці ня толькі выклікаць рэвалюцыю ў Саветах, але навет і зарганізаваць патрэбныя рэвалюцыі сілы. Аб гэтым нас пераконваюць ня толькі тэаратычныя разважаньні, ня толькі веданьне запраўднага палажэньня ў Савецкім Саюзе, але і ўсе дасюлешнія практычныя спробы рэвалюцыйнага змаганьня ў Саветах яшчэ ў тыя часы, калі сыстэма тэрору была не такой вострай.

Дасюлешняя гісторыя Савецкага Саюзу й гісторыя вызвольнага змаганьня паняволеных ім народаў пераконвае кажнага цьвяроза думаючага аб тым, што бальшавізм можа быць ~~зьнішчаны толькі~~ шляхам супольнага дзеяньня двух сілаў: вонкавай ваеннай інтэрвэнцыі й рэвалюцыйнага змаганьня ўсіх народаў, паняволеных бальшавізмам. А каб гэтая супольнасьць дзеяньня наступіла, то адзінай і неабходнай передумовай ёсьць распадзел савецкае імпэрыі на нацыянальныя гаспадарствы народаў. Бо ў праціўным выпадку ня будуць-жа змагацца гэтыя народы супраць аднае няволі па тое толькі, каб яе замяніла другая няволя.

Ці расейскія палітыкі не разумеюць гэтага? Ня можна іх вінаваціць у наіўнасьці й думаць аб адваротным. Разумеюць яны гэта вельмі добра, але не падлягае сумліву й факт, што канцэпцыя распадзелу расейскае імпэрыі на нацыянальныя гаспадарствы падбітых ею раней ці пазьней народаў зьяўляецца для іх, прасякнутых спрадвечным расейскім імпэрыялізмам, вельмі страшнай, а ня выключана, што страшнейшай, чымсьці навет захаваньне бальшавіцкае сыстэмы. Дзеля гэтага стараюцца яны перакааць вонкавы сьвет аб тым, што расейскі народ і сам справіцца з бальшавізмам пад умовай, што Расея астанецца непадзельнай і што гэты-ж заходні сьвет прызнае права спадчыны ў будучай Расеі выключна расейцам. Толькі такое можа быць вытлумачэньня такой расейскай тэорыі, бо іншага знайсьці нельга. Трэба думаць, што гэтая тэорыя зьяўляецца разьлічаная на тое, што амэрыканскі народ у васнаўным ня хоча вайны й хапаецца ахвотна за ўсякую, хоць і нерэальную канцэпцыю, абы толькі адцягнуць мамэнт нямінучага збройнага канфлікту.

Але эфэкт ад такой тэорыі ёсьць вельмі танны й кароткатрывалы. Такую тэорыю можна снаваць толькі датуль, пакуль ня прыйдзецца яе рэалізаваць на практыцы. А сяньня ў мамэнт напружанага савецкага наступу й рэальнай ваеннай загрозы зьяўляецца такая тэорыя сьмяротна шкоднай для ўсіх тых, каму залежыць на зьнішчэньні бальшавізму, затое ёсьць яна карысная бальшавіком, бо можа адцягваць заходні сьвет ад расправы з бальшавіцкай агрэсыяй, а гэтай апошняй дае магчымасьць выіграць на часе.

Дык трэба раз назаўсёды адкінуць усякія фальшывыя й зманлівыя тэорыі, а глянуць праўдзе сьмела ў вочы. Трэба раз назаўсёды згадзіцца з тым, што перамагчы бальшавізм немагчыма ў імя тае самае ідэі, якую праводзіць у жыцьцё сяньня бальшавізм, але толькі ў імя ідэі свабоды й справядлівасьці, выпісанай на балонах Атлянтычнай Хартыі, Хартыі Задзіночаных Нацыяў і іншых дакумэнтаў запраўднае дэмакратыі. А гэтыя ідэі адкідаюць усякае насільнае паняволеньне аднаго народу другім, а даюць усім народам неабмежаванае права будаваць сва жыцьцё паводля свае собскае волі.

Мы не зьяўляемся ворагамі расейскага народу, але ворагамі, і то бескампрамісовымі й зацятымі, расейскага імпэрыялізму й паняволеньня ім чужых науодаў. І таксама ня будзем ворагамі расейскіх эміграцыйных палітыкаў, калі яны шчыра стануць на дэмакратычных прынцыпах заходняга сьвету.

**Я. Каранеўскі.**

## «ДАСЯГНЕНЬНІ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ»

Газэта «Тагэсшпігель», што выходзіць у Амэрыканскай зоне Бэрліна, у вартыкуле «Расейская аўтакратыя» перлічвае ўсе «дабрадзействы», што іх прынесла чалавецтву савецкая сыстэма ў дзялянцы права. Там чытаем:

«Савецкае права служыць не для таго, каб абараняць чалавека, але для таго, каб затрымаць уладу. Таму ў усходняй Эўропе зьнішчана ўсе здабыткі мінулых «буржуазных» рэвалюцыяў і міжнароднага работніцкага руху. Довады гэтага: скасавана права свабоднага задзіночваньня работнікаў, зьнесена свабоду зьменьваць месца працы, зьменьваць месца пражываньня й перасяленьня. Заведена сьмяротную кар у(ці 25 год прымусовай працы — што выходзіць на тое самае) за работніцкія штрайкі. За дэзэртырства вайсковазабавязаных арыштоўваюць усю ягоную сям'ю. Забаронена карэспандаваць із Захадам. і купляць замежныя газэты. Адмаўляецца права азылю навет некаторым замененым уцекачом - камуністым. Заведзена сярэднявечны шлюбны закон. Судовыя працэсы адбываюцца бяз права абароны і пры дапамозе варварскіх мэтадаў тартураў. А разам з гэтым — шырокая прапаганда пра савецкую гуманнасьць і поступ».

## ВЫНЯТКАВАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ Ў ГРЭЦЫІ

Грэцкі ўрад выдаў 29 кастрычніка распараджэньне аб увядзеньні ўва ўсей Грэцыі выняткавага палажэньня. На падставе распараджэньня, падпісанага каралём Паўлам, даюцца большыя паўнамоцтвы ваенным трыбуналам і ўводзіцца цэнзура.

**Чытайце, пашырайце й выпісвайце адзіную беларускую газэту на эміграцыі — «БАЦЬКАЎШЧЫНУ!».**

**Абавязкам кажнага зарабляючага Беларуса, апрача падпіснай платы, зләжыць ахвяру ў меру ягоных магчымасьцяў на выдавецкі фонд «Бацькаўшчыны».**

стварэньня зь яго запалоханага й бяздушнага манэкіна, сьлепа паслухмянага капрысам чырвоных сталінскіх сатрапаў. У пары з гэтым ідзе нішчэньне рэлігіі, як найвялікшае маральнае асновы народу. Уводзіцца нячуваны ў ніводнай капіталістычнай краіне вызыск працы. Беларускае сялянства — аснова ўсяго народу— абрабоўваецца із прадзедаўскае зямлі й заганяецца ў калгасную паншчыну, дзе эксплятацыя, вызыск, голад і зьдзек куды горшыя, чымсьці навет сярод нявольнікаў фабрычнае працы.

З мэтаю зьнішчэньня беларускага народу, як нацыі, савецкія ўлады праводзяць масавыя высяленьні й перасяленьні беларускага народу ў сібірскія тайгі й казахстанскія пустыні, а на гэтае месца насяляюць чужанацыянальны элемэнт. Разам з гэтым адбываецца масавае фізычнае вынішчэньне народу. Падчас аднае толькі калектывізацыі й раскулачваньня згодна савецкай статыстыкі выслана ў Сібір і Казахстан каля 1.800.000 беларускага перадавога сялянства. Дзесяткі тысячаў перадавой беларускай інтэлігенцыі, духавенства, вучоных, паэтаў, пісьменьнікаў, мастакоў, кампазытараў і іншых дзеячоў культуры савецкія ўлады падчас розных чыстак і індывідуальна арыштавалі, кінулі ў турмы, расстралялі або выслалі ў свае канцэнтрацыйныя лягеры на мукі й сьмерць.

І вось такі нялюдзкі зьдзек, такія нячуваыя мукі мусіць з году ў год цярпець беларускі народ і яшчэ дзякаваць «вялікаму» Сталіну за сваё «радаснае, шчасьлівае й заможнае» жыцьцё й маніфэставаць з усьмехам на тварах гэтую сваю ўдзячнасьць і бязьмежную аддасьць камуністычнай партыі й ураду ў сяньняшні дзень 31-ай гадавіны свайго найцяжэйшага нявольніцтва й паніжэньня. Ці-ж гэта не найвялікшая крыўда й трагэдыя нашага слаўнага беларускага народу?

Мы ўсе — беларускія палітычныя эмігранты, якія на собскай скуры пазналі ўвесь жах бальшавіцкага нявольніцтва ды прыпадкам толькі ўцалелі ад апекі Сталіна й знаходзімся сяньня паза межамі дасягу ягонае крывавае рукі, павінны ў гэты дзень глыбака й сур'ёзна задумацца й здаць сабе справу з таго, што ніводзін з нас не павінен астацца ў баку ад нацыянальна-вызвольнага змаганьня беларускага народу, што вядзе да зьнішчэньня праступнага бальшавізму й адбудаваньня Вольнай і Незалежнай Беларусі. Паколькі для валадароў чырвонага Крамля й іхных сьляпых наемнікаў сяньняшні дзень зьяўляецца днём далейшага ўмацаваньня злачыннае бальшавіцкае сыстэмы, па толькі для нас — ахвяраў гэтых злачынстваў — павінен ён стацца днём глыбокага ўсьведамленьня нашых абавязкаў перад народам і днём помсты за ўсё ягоныя крыўды й цярпеньні.

# СПРАВЫ ДП

### ПРАЎНАЯ ПОМАЧ ІРО

Згодна 2-га артыкулу Канстытуцыі ІРО ўстанаўляецца праўная і палітычная абарона для уцекачоў і ДП, якія знахадзяцца пад «іраўскай» апекай. Праўную помач прызналі таксама і зах. акупацыйныя ўлады, як асноўную кампэтэнцыю ІРО. Паміж ІРО і акупацыйнымі ўладамі быў зроблены дагавор, паводля якога ІРО ў паразуменьні з акупацыйнымі ўладамі зьўляецца адказным за праўную і палітычную помач для ўцекачоў і ДП.

Дня 8.3. 1948 увайшло ў жыцьцё распараджэньне Галоўнае Кватэры ІРО на амэрыканскую зону за парадкавым нумарам 8. Паводля апошняга ўстанаўляецца становішча праўнага дарадніка пры Галоўнай Кватэры (Бад Кісінген) на ўсю Амэрыканскую зону, праўных афіцэраў на паасобныя акругі і праўных кансультантаў для зборных лягераў. Праўны кансультант прыдзяляецца прыблізна на 2000 асобаў, якія знаходзяцца ў вадным ці некалькіх лягерах. Асноўная праца належыць да кампэтэнцыі праўных кансультантаў, так званых «лігэль каўнсэляраў». Праўныя афіцэры ў акругах і праўны дараднік Гал. Кватэры зьяўляюцца органамі кантролі, статыстыкі і зносінаў. Яны адказныя перад дырэктарамі акругаў і Галоўнай Кватэрай і павінны паведамляць іх аб дзейнасьці падпарадкаванага ім праўнага апарату. У кампэтэнцыі праўных консультантаў знаходзяцца наступныя справы: зацьверджаньне подпісаў асобаў на рознага роду пасветчаньнях, сьцьверджаньне згоднасьці копіяў і перакладаў з арыгіналамі, прыймо да пратаколу натарыяльным парадкам розных заяваў, сьцьверджаных сьветкамі, дапамога пры афармленьні ўсялякага зьместу дакумантаў, як пасьветчаньні аб нараджэньні, жанімстве, сьмерці (якія пасьля легалізуюцца кансультантам), помач пры адтрыманьні статусу ІРО, пры эміграцыі, усялякага роду сацыяльных забясьпечаньняў, справы, вынікаючыя з умовы аб працы, справы адносна гандлёвых і рамесьніцкіх дачыненьняў, справы аб разводзе, адаптацыі і. д. Адным словам праўная помач, якая даецца праўнымі кансультантамі, ёсьць вельмі рознаякасная і адносіцца часткова да натарыяльных і адвакацкіх кампэтэнцыяў. ДП, якія знаходзяцца ў лягерах, а таксама, й тыя, што жывуць прыватна, цэняць гэтую інстытуцыю і стараюцца ўзяць ад яе ўсё тое, што яна можа даць. Бязумоўна, вялікае значэньне мае й тое, што ўсе парады і праўныя акты, якія легалізуюць кансультанты, зьяўляюцца бясплатнымі сьветчаньнямі. Дакуманты, выданыя імі, перад іраўскімі й кансулярнымі дзейнікамі маюць вагу дакумантаў, выстаўленых дзяржаўнымі органамі.

---

У васнаўным перад хуткай масавай эміграцыяй трэба мець усе дакуманты прыгатаванымі, а перадусім мэтрыкі нараджэньня, шлюбу, цывільнага стану і г. д. Усё гэта можна зрабіць без выдаткаў: хопіць толькі крыху добрае волі і ахвоты падыйсьці да мясцовага праўнага кансультанта ці, як некаторыя завуць, юрысконсуля ці лягернага адвоката. Пры кажным родзе дакумантаў патрэбна сьцверджаньне праўдзівасьці даных двумя сьветкамі. Тыя, якія зьяўляюцца ўдаўцамі ці ўдовамі, павінны мець дакумант, які сьцьвярджае сьмерць сужэнца. Тыя, якія трапілі ў справы крымінальнага характару, хай зьвяртаюцца па параду й помач да праўнага кансультанта. Але ня толькі прыватныя асобы маюць права на помач праўных кансультантаў. Таксама грамадзкія інстытуцыі й адміністрацыя лягераў могуць зьвярнуцца да праўных кансультантаў у тэхнічна-адміністрацыйных і праўных пытаньнях, а таксама ў справах, якія з праўнага боку зьўляюцца для іх незразумелымі.

**Юрысконсуль.**

# ФІНЛЯНДЫЯ НАЙБОЛЬШ СВАБОДНАЯ

Як ведама, савецкі ціск на ўсе сатэлітныя гаспадарствы што раз больш завастраецца, што сяньня ня прыходзіцца й гаварыць аб якой-небудзь свабодзе ў іхным жыцьці ані аб якіх-небудзь дэмакратычных прынцыпах. Некаторыя зь іх, як прыкладам Чэхаславаччына, фактычна сталіся савецкімі рэспублікамі, іншыя на дарозе да гэтага.

Адна толькі Фінляндыя цешыцца дасюль даволі вялікай свабодай, што ёсьць проста незразумелым зьявішчам для многіх палітычных наглядальнікаў. Гэтак у Фінляндыі адбыліся выбары такія-ж свабодныя, як і ў кажнай заходняй краіне. Існуе свабода прэсы, якая шырака піша ня толькі аб намаганьнях заходняй Эўропы бараніцца перад камуністычнай загрозай, але таксама й пра плян Маршаля, а навет пра варожую Савецкаму Саюзу дзейнасьць эміграцыйных групаў. Фінляндыя магла паклікаць сабе сацыял-дэмакратычны ўрад, не баючыся гневу Масквы. Там навет праськледуюць камуністых і Масква да гэтага спакойна прыглядаецца. На пытаньне аб прычынах такой сытуацыі, фіны горда адказваюць: «Мы-ж фіны, а ня чэхі!».

Заходняя прэса часта дашуківаецца прычынаў такога захоўваньня Масквы й знаходзіць розныя. Але найбольш праўдападобнымі могуць тут быць дзьве прычыны: палітычныя й мілітарныя.

Палітычны мамэнт адыгрывае тут важную ролю, асабліва калі ўзяць на ўвагу, што ходзіць тут ня толькі пра Фінляндыю, але таксама пра ўсю Скандынавію. Расейская палітыка сільнай рукі ў Фінляндыі заалярмавала-б у першую чаргу Швэдыю, якая нарушыла-б тады сыстэму раўнавагі й кінула-б яе ў вабоймы заходніх гаспадарстваў. А Саветам шмат залежыць на тым, каб ня піхнуць Швэдыі ў варожую кааліцыю. Швэдыя ня толькі выраўноўвае ўсходня-нямецкае заплечча, але, астаючыся нэўтральнай, замыкае парты перад інвазыйным флётам.

Але ня меншае значэньне мае тут і вайсковы мамэнт. Саветам было-б таксама важна хутка апанаваць Фінляндыю, але пытаньне, ці такая акупацыя дасягнула-б сваю мэту. Прастор ёсьць саюзьнікам ня толькі Расеі, але й Фінляндыі. Расейцы ведаюць волялюбнасьць і вялікі гераізм фінскага народу, які ўмее бараніцца да апошняга. Навет цары панавалі над Фінляндыяй, не як расейскія цары, але як фінскія князі. Але аб гераізьме фінаў найбольш сьветчыць вайна СССР супраць Фінляндыі ў 1939 г., якая кончылася, як ведама, найвялікшай кампрамітацыяй Саветаў.

**Р.**

### НОВЫ ШЭФ АДДЗЕЛУ ПУБЛІЧНАЙ ІНФАРМАЦЫІ ІРО

Пасьля адкліканьня ранейшага шэфа Аддзелу Публічнай Інфармацыі Галоўнай Господы ІРО сп. Дэнлінгера часова спаўняла ягоныя абавязкі сп. Фэдэр. Цяпер-жа назначаны новы шэф Аддзелу Публічнае Інфармацыі сп. . Райнэр, які 23 кастрычніка абняў урадаваньне.

### ЗАМАРДАВАНЬНЕ ЎРАДАЎЦА ЗША У ВЕНЕ

31 кастрычніка ў Вене быў замардаваны ў сваім аўтамабілі ўрадавец амэрыканскага пасольства ў Вене і супрацоўнік амэрыканскае місіі для эўрапэйскага супрацоўніцтва — Ірвінг Рос. Як выясьнена, Рос быў замардаваны савецкімі жаўнерамі.

**Ці выканалі Вы Ваш грамадзкі абавязак і аднавілі падпіску на «Бацькаўшчыну»? Зрабіце гэта безадкладна!**

---

**А. Дзіда.**

# СУЧАСНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

## БЕЛАРУСКАЕ ВОНКАВАЕ ПАЛІТЫКІ

(Працяг)

### НОВАЯ КАНЦЭПЦЫЯ НАШАЕ ВОНКАВАЕ ПАЛІТЫКІ

Беларускі народ у васобе сваіх нацыянальна-палітычных арганізацыяў яшчэ ў гады 1-ае сусьветнае вайны зразумеў недастатковасьць толькі сваіх нацыянальных сілаў для здабыцьця й утрыманьня свабоды й незалежнасьці, вызнаў канечную патрэбу павязаньня сваіх сілаў із сіламі іншых, заняволеных расейскай імпэрыяй народаў. Таму на зьездах нерасейскіх народаў Расеі ў Штакгольме (1916), Лёзаньне (1916) і Кіеве (1917) ім былі пакладзеныя першыя пачаткі нашае новае вонкава-палітычнае канцэпцыі. З увагі на тое, што ён знайшоўшы тады ў вельмі няспрыяльнай палітычнай сытуацыі, у якой абвешчаная ў 1918 г. незалежнай Беларуская Народная Рэспубліка змагла ўтуымацца толькі год, пасьля чаго, будучы падзеленая Рыскай Угодаю, зноў лучыла ў склад Расеі й Польшчы, — беларуская вонкавая палітыка не змагла разьвіцца ў стройную палітычную дактрыну із сілаю дзяржаўнага й нацыянальнага закону. Гэта й спрычынілася да таго, што наш далейшы нацыянальна-вызвольны рух, паралiжаваны найцяжэйшым у гісторыі расейска-камуністычным рэжымам і нацыянал-шавіністычным рэжымам у Польшчы зьбіваўся часамі да арыентацыйных настаўленьняў вузкаканьюнктуральнага характару, каб хоць гэтым ратавацца ад загрозы павольнае нацыянальнае сьмерці. А між тым, калі-б мы мелі дагэтуль добра распрацаваную канцэпцыю свае вонкавае палітыкі ды срога кіраваліся ёю ў сваім змаганьні, то напэўна заашчадзілі-б шмат ахвяраў, зьберaглі-б шмат намарна страчаных сілаў і былі-б ужо далёка наперадзе па дарозе да мэты. З гэтых меркаваньняў нашыя інтарэсы й загадваюць нам сяньня ісьці далей у пляваньні свае вонкавае палітыкі, вымагаюць, нарэшце, завяршыць ейнае распрацаваньне ў стройную канцэпцыю, каб адгэтуль яна ўжо й набыла сілу нацыянальнага закону.

Нашая новая вонкава-палітычная канцэпцыя выходзіць зь ідэі ангельскае канцэпцыі раўнавагі сілаў у Эўропе. Але яна ёсьць толькі нашым варыянтам ангельскае канцэпцыі, варыянтам, які прадбачвае канструкцыю такога новага ўкладу сілаў у Эўропе, які-б забясьпечыў свабоду й незалежнасьць беларускаму народу й усім іншым паняволеным Расеяй народам у рамах нанова ўстаўленага трывалага балянсу агульнаэўрапэйскае раўнавагі. А гэта магчыма толькі ў выпадку поўнага разьвязаньня праблемы расейскага і нямецкага імпэрыялізму, ад чаго й залежыць лёс усіх народаў, што жывуць на прасторы між Нямеччынай і Расеяй.

Мы трымаемся перакананьня, што гэтая раўнавага сілаў можа наступіць пры ўмове зраўнаважаньня сілаў Нямеччыны й Расеі рэгіянальнымі задзіночаньнямі іншых эўрапэйскіх дзяржаваў: на заходзе — Заходня-Эўрапэйскае вуніі, да якое-б далучыліся Гішпанія, Партугалія, Італія, а мо й Аўстрыя (тэрыторыя ў 1.930.000 кв. клм. з 191 млн. насельніцтва); на поўначы— Скандынаўскага ці Скандынава-Балтыцкага блёку (у вапошнім выпадку з далучэньнем да ўжо творанага Скандынаўскага блёку такіх дзяржаваў, як Фінляндыя, Карэлія, Эстонія, а мо й Латвія — тэрыторыя ў 1.650.000 кв. клм. з 22 млн. насельніцтва) і блёку дзяржаваў цэнтральнае, паўдзённае й усходняе Эўропы (тэрыторыя ў 3.150.0000 кв. клм. з 185 млн. насельніцтва). Пры гэтым мае быць разьвязанае й пытаньне ўнезалежненьня ад Расеі народаў паўночна-ўсходняе Эўропы (ідэльуральцаў, башкіраў, удмуртаў. комі, марыйцаў, чувашоў, мардвы й інш.), а таксама й народаў цэнтральнае Азіі й Сібіру.

Калі Заходня-Эўрапэйскія й Скандынаўскія дзяржавы ўжо практычна сталі на гэты шлях, то народы цэнтральнае, паўдзён. і усход. Эўропы ня маюць дагэтуль такое канцэпцыі, якая-б поўнасьцю пагадзіла й задзіночыла іх. А такую канцэпцыю мы, урэшце, мусім знайсьці й то як найхутчэй, каб падзеі, перад якімі мы стаімо, не змаглі нас засьцігнуць непадрыхтаванымі.

На сяньняшнім этапе разьвіцьця міжнародных дачыненьняў і тых неаднолькавых умоваў, у якіх перабываюць паасобныя народы нашага прастору, мы выказваемся за блёк, як за найбольш адпаведную форму рэгіянальнага задзіночаньня. Нам выдаецца, што гэтая форма мае большыя здольнасьці перамагчы тыя цяжкасьці, якія ляжаць на дарозе да нашага задзіночаньня.

Але тут паўстае пытаньне. Ці мэтазгодна на абшары між Нямеччынай і Расеяй тварыць два асобныя блёкі: адзін для нэўтралізацыі нямецкага імпэрыялізму, а другі — расейскага? Ці магла-б быць у гэтым выпадку поўная гарантыя міру ў Эўропе, гарантыя свабоды й незалежнасьці беларускага і ўсіх іншых народаў усходняе, цэнтральнае й паўдзённае Эўропы?

Нам здаецца, што не мэтазгодна, і поўная гарантыя міру й свабоды пры гэтым была-б пад знакам запытаньня. За гэта прамаўляюць наступныя меркаваньні. Аднаму блёку — цэнтральна-паўдзённа-эўрапэйскаму — беспасярэдня азгражаў бы нямецкі імпэрыялізм, а расейскі — толькі пасярэдня; другому-ж — усходняэўрапэйскаму, — наадварот, беспасярэдня загражаў-бы расейскі імпэрыялізм, а нямецкі — толькі пасярэдня. А мы ня можам забывацца аб тым, што між гэтымі двума блёкамі не выключаласая-б міжсобнае змаганьне ці рознага роду супярэчнасьці, што ў сваіх дыплёматычных інтрыгах Расея й Нямеччына маглі-б распальваць і выкарыстоўваць. Такі рызыкоўны стан рэчаў па прайграньні часу ў пэўным мамэнце, калі ня скончыўся-б трагічна для ўсіх народаў двух блёкаў, то ў імя супольнае бясьпекі й гаспадарчых інтарэсаў прывёўбы іх да злучэньня.

Зноў-жа Беларусь, Украіна й Прыбалтыка пры пляваньні двух блёкаў мусілі-б выбіраць сабе паміж адным і другім блёкам; прычым і ў вадным і другім выпадку займалі-б вельмі нявыгоднае геаграфічнае палажэньне, будучы на самай мяжы блёку.

Таму мы адразу й выказваемся за адзіны блёк на гэтым адзіным і непадзельным прасторы.

Такім чынам, нашая новая канцэпцыя палягае на праектаваньні блёку дзяржаваў цэнтральнае, паўдзённае й усходняе Эўропы. У гэты блёк на правох раўнапраўнасьці ўвайшлі-б наступныя дзяржавы: Альбанія, Сэрбія, Харваччына, Славэнія, Грэцыя, Баўгарыя, Румынія, Вугоршчына, Чэхія, Славаччына, Польшча, Прыбалтыка (найменш Летува), Беларусь, Украіна, Вольная Казацкая Дзяржава, Паўночны Каўказ, Грузія, Армэнія й Азэрбайджан. Такі блёк стаўся-б абароннай кааліцыяй вылічаных дзяржаваў Эўропы супроць Расеі й Нямеччыны, стварыўшы адначасна ягоным партнэрам пэрспэктывы для іхнага гаспадарча-культурнага развою.

З гледзішча сяньняшняга дня наша канцэпцыя мае два пляны: нэгатыўны — паваленьне сілаў нямецкага й расейскага імпэрыялізму, і пазытыўны — разбудову блёку дзяржаваў цэнтральнае, паўдзённае й усходняе Эўропы.

Праграма нэгатыўнага пляну, хоць і часткова, ужо стала на рэйкі да свайго практычнага зрэалізаваньня. Вольныя дзяржавы заходняе Эўропы й ЗША ўжо пасьля 1-ае сусьветнае вайны, а пасьля другое пагатоў поўнасьцю зразумелі небясьпеку нямецкага імпэрыялізму й у сваёй сяньняшняй палітыцы робяць з гэтага практычныя высновы. Аднак праблема расейскага імпэрыялізму, у якой найбольш зацікаўленыя народы ўсходняе, цэнтральнае й паўдзённае Эўропы, яшчэ не набрала для іх канкрэтна-актуальнага значаньня й таму не пастаўлена імі так выразна ў парадак дня, як праблема імпэрыялізму нямецкага. Гэта вымагае ад нас шмат высілкаў і працы, каб інтарэсы й народаў нашага прастору знайшлі ў іх поўнае зразуменьне.

Вось-жа дзеля таго на першае месца нэгатыўнага пляну нашае канцэпцыі сяньня й высоўваецца заданьне паваленьня расейска-бальшавіцкага імпэрыялізму, які сваімі сіламі заліў цэлую прастору праектаванага намі блёку. Канчальнае й поўнае разьвязаньне гэтага заданьня ляжыць у формуле разьдзелу расейскае імпэрыі на ейныя складовыя нацыянальныя часткі — у вызваленьні нашых земляў ад расейскае акупацыі й аднаўленьні на іх нашых нацыянальных сувэрэнных дзяржаваў. Пры гэтым мы ня можам абмяжоўвацца у сваёй праграме толькі да паваленьня ў Расеі бальшавіцкага рэжыму, каб гэтым самым рашчысьціць дарогу для якогасьці іншага таталітарна-імпэрыялістычнага рэжыму. Ворагам нашае свабоды ёсьць усялякі расейскі імпэрыялізм — манархістычны, бальшавіцкі, уласаўскі й г. д. Бальшавіцкая форма расейскага імпэрыялізму ёсьць толькі сучаснай формай ягонага выяўленьня, а факты расейскае гісторыі не даюць нам ні найменшае падставы прыпушчаць, што Расея, прынамся ў бліжэйшым часе зможа зрачыся свайго традыцыйнага імпэрыялізму. Таму адно з двух: або мы за разьдзел усялякае расейскае імпэрыі й аднаўленьне на сваіх этнаграфічных землях нацыянальных сувэрэнных дзяржаваў, або мы за захаваньне яе, каб і надалей несьці ў ёй свой цяжкі крыж няволі.

(Заканчэньне будзе).

